


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

6 ліпеня 2001 года

№ 27 (324)

Выходзіць па пятніцах





Навіны рэгіёна

## Новая АТС у Гервятах

**АСТРАВЕЦ.** У Гервятах увайшла ў строй новая лічбавая АТС. Як сказала галоўны інжынер Астравецкага РВЭС **Эмілія Жыляк**, яна разлічаная на 300 нумароў. Сабекошт аднаго нумара – 543 тысячы рублёў, за падключэнне бяруць 178 тысяч.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Перэс ідзе ў адстаўку

Ураджэнец Вішнева, што на Валожыншчыне, міністр замежных справў Ізраіля **Шымон Перэс (Сямён Перскі)** заявіў, што гатовы ісці ў адстаўку.

– Я ўваходзіў у гэты ўрад не дзеля таго, каб здраджваць душы, – заявіў ён прэм"ер-міністру **Шарону**.

Неназваная крыніца паведамляе, што Перэс патрабаваў большай свабоды ў сваіх стасунках з **Ясірам Арафатам**:

– Абвяўленне Арафата persona non grata будзе памылкай.

Перэс нарадзіўся ў Вішневе ў 1923 годзе. Бацька Сямёна Перскага эміграваў у Палесціну ў 1931 годзе. Праз тры гады ён забраў да сябе жонку і дзяцей. Мястэчка ж было поўнасцю спаленае немцамі падчас апошняй вайны. Перэс займаў найвышэйшыя пасады ў Ізраілі, доўгі час узначальваў яго ўрад.



Фота IREX/Promedia.

**Перэс падчас візіту ў Вішнева ў 1998 годзе.**

**Аддзел інфармацыі.**

## «Песні над Нараччу»

**МЯДЗЕЛ.** У свяце «Песні над Нараччу» узялі ўдзел 14 калектываў з Мінскай і Віцебскай абласцей. Найбольш было з Маладзечна – 4. Спявалі на Нарачы ўладальніца Гран-пры рэгіянальнага конкурсу «Адна зямля-2000» **Даша Урызчанка** і лаўрэат "Адной зямлі-2001" **Дзмітрый Танюкевіч**. Сёлета большая была і выстаўка народных майстроў: прывезлі свае вырабы не толькі мясцовыя, але і з Глыбокага.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Еўрапейская уралогія

**ВАЛОЖЫН.** У Еўрапейскую асацыяцыю уролагаў уступіў урач раённай бальніцы **Яўген Лісneўскі**.

4 дні ў чэрвені ён удзельнічаў у пасяджэнні еўрапейскай школы уролагаў, якая праходзіла ў Мінску. Там сваімі дасягненнямі дзяліліся з калегамі уролагі з сусветнымі імёнамі.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

## Дарога да Будслава

**МЯДЗЕЛ.** З кожным годам усё больш прыходзіць, прыязджае пілігрымаў, каб ушанаваць абраз Маці Божай Будслаўскай. Сёлета іх колькасць вызначаюць не менш за 20 тысяч. Разам падыходзілі да касцёла пілігрымы з Маладзечна, Вілейкі, Касцяневічаў – агулам іх было за 200 чалавек.

Шлях з Маладзечна заняў тры дні, і для пяцігадовага **Антона Мінькоўскага** гэта выпрабаванне.

**Заканчэнне на 6-й стар.**



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

**Святую імшу праводзіць ксёндз кардынал Казімір Свёнтак.**

## Надвор'е на выхадныя

**Субота, 7 ліпеня**

**Мінск**
9 – 16°С (уначы)
24 – 28°С (удзень)



**Вільня**
16°С (уначы)
26°С (удзень)



**Нядзеля, 8 ліпеня**

**Мінск**
14 – 16°С (уначы)
24 – 25°С (удзень)



**Вільня**
17°С (уначы)
27°С (удзень)



# Дзень вызвалення



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Маладзечна, 3 ліпеня. У гарпарку запалены Вечны агонь.**

Святкаванне дня вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў сёлета знешне вельмі нагадвала Дзень Перамогі. У гарадскім парку культуры і адпачынку сабралася невялікая купка пажылых, у асноўным, людзей, перад якімі выступілі кіраўнікі горада і раёна. Традыцыйна далі слова ветэранам і моладзі. Затым было запальванне «вечнага агню», хвіліна маўчання і аўтаматны салют.

Маладзечанцы гэты дадатковы выхадны скарысталі для адпачынку за горадам. Хаця большасць, безумоўна, «бавіла час» на ўласных дачах і агародах.

**Іншыя матэрыялы, прысвечаныя Дню вызвалення, чытайце на 2-й стар.**

## Настаўнікі плацяць

**АСТРАВЕЦ. Колькі дзён таму ў райцэнтры і раёне настаўнікам пачалі плаціць адпускныя.**

Пры атрыманні грошай кожнага паставілі перад фактам, што ён павінен у "добраахвотна-прымусовым" парадку аддзелаць 500 рублёў.

Пасля чаго педагогі ставілі подпісы ў ведамасці, дзе было пазначана, што гэтыя грошы пойдуць на добраўпарадкаванне райцэнтра.

У настаўнікаў не саромеюцца забіраць ледзьве не апошнія крошкі.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

## Што можна зрабіць на мільён?

**МАЛАДЗЕЧНА. У горадзе працуюць каля 2 тысяч настаўнікаў. Калі кіраваць прыкладам Астраўца, то можна выручыць 1 мільён рублёў.**

У ВА "Камунальнік" прапанавалі ва ўсім горадзе пасадзіць кветкі.

У ЖРЭУ-1 паведамілі, што можна пакласці 100–120 квадратных метраў асфальту.

Экспрэс-апытанне маладзечанцаў

## Вы дасце 500 рублёў на добраўпарадкаванне горада?



**Таццяна Кравец, прадавец:**
– Так, згодная. А чаму? Заўсёды хочацца, каб горад выглядаў лепей, чым іншыя.



**Мікалай Цясленка:**
– Згодны даць і болей. Адзінае, каб гэтыя грошы пайшлі на рамонт дарог, вуліц, а не ў кішэні чыноўнікаў.



**Людміла Юшкевіч, прадавец:**
– Дам і болей. Прыемна хадзіць па чыстых вуліцах, бачыць Маладзечна ў кветках.



**Дзмітрый Высоцкі, прадпрымальнік:**
– Напэўна, дам. 500 рублёў асабіста мне надвор'я не робяць, а горад, калі грашыма разумна распарадзіцца, толькі выйграе.



**Гражына Паўлоўская, прадпрымальнік:**
– Згодная. Нягледзячы на "фестывальнае добраўпарадкаванне", горад выглядае не вельмі ўтульна. Хацела б яго бачыць самым лепшым.



**Святлана Пальчэўская:**
– А чаму б і не? Для свайго горада нічога не шкада. Тут жыву я, мае дзеці, а таму горад проста павінен быць прыгожы.

**Фотаапытанне падрыхтаваў Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

# Тараканавы тэрарызм

**МАЛАДЗЕЧНА. У горад зачасцілі мінчане, якія труцяць тараканаў у падвалах, смеццеправодах, на лесвічных пляцоўках жылых дамоў.**

Насякомыя ўцякаюць туды, дзе можна жыць і дзе нішто ім не будзе пагражаць — у кватэры. Мінчане адразу прапануюць жыхарам прэпараты, якімі можна знішчыць не вельмі прыемных істот у сваіх пакоях.

Намеснік дырэктара аб'яднання **Валерый Віткоўскі**:

*— У маі да мяне звярнулася прыватнае прадпрыемства з прапановай па вывядзенні тараканаў. Да гэтага мы карысталіся паслугамі раённага Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі. РЦГЭ дапамагаў за даволі вялікія для нас грошы — за кожныя 50 м² мы плацілі каля 4 тысяч рублёў. Мінчане ж прапанавалі ўсё рабіць бясплатна. Яны на сваё грошы "ганяюць" у дамах тараканаў, а потым проста прапануюць людзям набыць прэпараты. Ніхто ж не прымушае, людзі могуць нават дзверы не адчыняць.*

**— Скаргі ёсць?**

*— Выклікалі нават у следчы аддзел. Людзі казалі, што іх запалохваюць, каб яны куплялі прапанаваныя прэпараты. Але ніхто не патэлефанаваў мне і не назваў прозвішчы ці яшчэ што.*

**— Што гавораць былыя партнёры — РЦГіЭ?**

*Начальнік Цэнтра **Міхаіл Грабоўскі** даў дабро на супрацоўніцтва «Камунальніка» з прадпрыемствам з Мінска.*

Тараканы могуць усё або амаль усё. Давялося звяртацца па тлумачэнні ў аддзел прафдэзінфекцыі РЦГіЭ да **Мяленція Кур'янчыка**:

— Я ўжо не ведаю, што рабіць. Людзі звяртаюцца да нас са скаргамі. Мінская фірма "Біор" навязвае, каб яны куплялі іхнія прэпараты. Разоў у 10 даражэйшыя за тыя, што прапануем мы. А якасць прэпаратаў адна і тая. Нашымі "гасцямі" ужо займалася міліцыя. Нічога не дапамагае. Людзі ім даўяраюць, купляюць, а потым шкадуюць, што патрацілі такія грошы.

**— Але фірма дагавор заключыла з ВА "Камунальнік".**

*— Я лічу, што яны камунальнікаў падманваюць. Цяпер за проста так нічога не робіцца. Ад таго, што "Камунальнік" не плаціць грошы за паслугі, пакутуюць жыхары.*

Усё, здаецца, законна, але не ўсё гуманна. Калі гэта сапраўды толькі прапановы людзям з боку фірмы "Біор", то нешта дрэннае знайсці тут складана. Цяпер вакол нас усюды рэклама. І па тэлевізары, і па радыё, і ў газетах нам прапануюць шмат чаго, што здаецца лепшым, хоць і даражэйшым. Людзі ж маюць права выбару.

На справе ж атрымліваецца, што тараканаў гоняць да нас у катэры мэтанакіравана. І разгубленым жыхарам часам не застаецца нічога, як купляць дарагія, але бяздзейныя (як высвятляецца) прэпараты. Нават калі і добра трапіцца інсектыцыд, то карціна не надта радасная: спачатку нам у кватэры падганяюць з падвалаў тараканаў, а затым за нашыя ж грошы прапануюць іх знішчыць.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**



Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

**На мінулым тыдні ў Польшчы клубніцы каштавалі ад 240 да 600 рублёў за кілаграм. Цікава, наколькі танне абыходзяцца палякам нашыя лісічкі?**

**У чацвер на маладзечанскім калгасным рынку паўлітровы слоік лісічак каштаваў 600-700 рублёў. І прапанова была невялікая — іх прадавалі ўсяго ў трох-чатырох месцах. Не інакш, як зборшчыкі аддаюць перавагу аптовай здачы грыбоў перакупшчыкам.**

**Колькасць лісічак на рынках у бліжэйшыя дні будзе напраму залежаць ад надвор"я. Патрэбныя дажджы. Не зашкодзяць яны, дарэчы, і клубніцам.**

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ, Юрый КАРПІЦКІ.**

# Пагарэльцы не бачаць надзеі

**МАЛАДЗЕЧНА. Больш за 3 месяцы мінула, як гарэў дом па вуліцы Паркавай.**

Пасля пажару прайшла нарада з удзелам адказных асоб горада і вобласці. У ЖРЭУ-4 паабяцалі жыхарам, што праз паўгода рамонт скончыцца.

Будаўнікі разбурылі калідор на другім паверсе, пачысцілі згарэлы дах, знялі абшыўку і закалацілі вокны на першым паверсе.

Пенсіянер **Міхаіл Нікіцін**:

— Спачатку кіраўнік дамоў **Марына Лапека** казала, што адрамантуюць праз месяц, потым — праз паўгода. Дом вырашылі абкласці цэглай і знялі абшыўку. Цэглы пакуль няма, а "вагонку" расцягнулі. Дом стаіць без нагляду. Толькі у маёй былой кватэры знялі двое дзвярэй. Часцяком лазілі дзеці, палілі агонь у будынку. Тады і закалацілі вокны на першым паверсе.

Вада прасочваецца ў пакоі, і на падлозе цяпер стаяць лужыны. Калі б шчыты на вокнах можна было адкрыць, то выратавалі б падлогу, а то яна цяпер згніе. Лепш было разбурыць гэты барак 40-х гадоў і пабудаваць новы дом.

У рэдакцыю патэлефанавала яшчэ адна жыхарка гэтага дома — **Наталля Рогава**:

— Нічога не робіцца з красавіка. У доме павыцягвалі вокны, усё сатлела.

**Юрый КАРПІЦКІ.**



Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Згарэлы дом па вуліцы Паркавай у Маладзечне: адразу пасля пажару тры месяцы таму (уверсе) і ў канцы чэрвеня (унізе).**

## Курсы валют НБ РБ

| | 28 чэрвеня | 5 ліпеня |
|---|---|---|
| Долар | 1378,00 руб. | **1382,00** руб. |
| Нямецкая марка | 608,99 руб. | **598,35** руб. |
| Літ | 344,46 руб. | **345,41** руб. |
| Расійскі рубель | 47,31 руб. | **47,54** руб. |
| Злоты | 348,64 руб. | **345,50** руб. |
| ЕЎРА | 1191,07 руб. | **1170,28** руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1400 – 1420 руб. | **1400 – 1430** руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 27.06 | 4.07 |
|---|---|---|
| **Курыныя кумпячкі**, 1 кг | 2100 | **2100** |
| **Кілбаса с/вялен.**, 1 кг | 6280 | **6199** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 2340 | **2340** |
| **Селядзец**, 1 кг | 1650 | **1650** |
| **Рыс**, 1 кг | 530 | **550** |
| **Грэчка**, 1 кг | 440 | **450** |
| **Цукар**, 1 кг | 615 | **660** |
| **Алей**, 1 л | 860 | **860** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 680 | **680** |
| **Маянэз**, 200 г | 250 | **250** |
| **Кава "Пеле"**, 100 г | 1500 | **1500** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 450 | **450** |
| **Соус там. «Мінскі»**, 0,5 л | 360 | **370** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 600 | **650** |
| **Капуста**, 1 кг | 350 | **350** |
| **Агуркі**, 1 кг | 700 | **450** |
| **Памідоры**, 1 кг | | **1000** |
| **Лімоны**, 1 кг | 1700 | **1800** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 1800 | **1750** |
| **Чарэшня**, 1 кг | 1300 | **1600** |
| **Абрыкосы**, 1 кг | | **1500** |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| **Смятана**, 1 л | 900 | **1000** |
| **Масла**, 1 кг | 2200 | **2400** |
| **Тварог**, 1 кг | 600 | **700** |
| **Малако**, 1,5 л | 350 | **350** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 900 | **950** |
| **Бульба**, вялікае вядро | 900 | **800** |
| **Бульба маладая**, 1 кг | 700 | **600** |
| **Морква**, 1 кг | 1400 | **1350** |
| **Морква маладая**, 1 пучок | | **500** |
| **Клубніцы**, малое вядро | | **4000** |
| **Чарніцы**, малое вядро | | **3000** |
| **Чорныя парэчкі**, малое вядро | | **3500** |
| **Чырвоныя парэчкі**, малое вядро | | **2500** |
| **Суніцы**, малое вядро | | **8000** |
| **Маліны**, малое вядро | | **5000** |
| **Вішні**, малое вядро | | **4500** |
| **Агрэст**, малое вядро | | **3000** |

# З хлебам разабраліся

**МАЛАДЗЕЧНА. У Беразінскім праблемы з хлебам, які сюды паступаў з Радашкавічаў, відаць, знайшлі сваё вырашэнне.**

Намеснік начальніка Радашкоўскага хлебазавода **Аляксандр Матарын**:

— Да нас паступілі подпісы беразінцаў, якіх наш хлеб не задавальняе. Нечага канкрэтнага, чаму наш хлеб дрэнны, яны не пазначалі. Прыкладам, скардзіліся, што хлеб чэрствы, але ж мы адпраўляем прадукт, выраблены ў начную змену. Цяпер працягваем працаваць, імкнемся пільна сачыць за вытворчасцю. З Беразінскім таксама ўсё вырашана. Паколькі магазіны належаць райспажыўтаварыству, то наш хлеб туды патрапіць. Праўда, цяпер мястэчка будзе атрымліваць палову хлеба з Радашкавічаў, палову — з Маладзечна.

Прадаўцы беразінскіх магазінаў гавораць, што пасля скаргі хлеб з Радашкавічаў увогуле стаў лепшы за маладзечанскі. Мае ўласныя даследаванні хлеба на смак не выявілі нейкіх асаблівых адрозненняў на чыюсьці карысць. Хаця гэта, напэўна, не паказчык якасці.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

■ **НАШЫ ГРОШЫ**

# Расце запазычанасць па зарплаце

**На пачатак чэрвеня запазычанасць па заработнай плаце ў Беларусі дасягала 11,9 млрд. рублёў (8,7 млн. долараў ЗША ў пераліку па афіцыйным курсе).**

Паводле звестак Міністэрства статыстыкі і аналізу, гэта на 39,5% больш, чым напачатку мая. Удзельная вага запазычанасці ў месячным фондзе заработнай платы ўзрасла з 2,8 да 3,7%.

Рост запазычанасці па зарплаце адбыўся ва ўсіх абласцях, за выключэннем Віцебскай і Мінскай. На Гродзеншчыне няма яго толькі ў трох раёнах. Па стане на 21 чэрвеня запазычанасць па зарплаце ў Гродзенскай вобласці складала 1 мільярд 220 мільёнаў рублёў. З іх 1 мільярд вінаватыя ў сельскай гаспадарцы. Самая высокая запазычанасць была ў Ашмянскім раёне — 167 мільёнаў рублёў.

**Па матэрыялах БелаПАН.**

